СВАБОДНАЕ СЛОВА
матэрыялы друкуюцца ў скарачэнні
КАСТРЫЧНІК № 102
У нумары выкарыстаны перадрукоўкі з рэспубліканскіх і масавых зарэгістраваных газэтаў

# ВЫНІКІ ВЫБАРАЎ: БАЙКОТ УДАЎСЯ!

Наша Свабода

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Масавымі грубымі парушэннямі ў ходзе галасавання і вельмі малым працэнтам яўкі выбаршчыкаў былі адметныя выбары ў палату прадстаўнікоў. Паводле звестак дэмакратычнай апазіцыі, якая вяла ўласны падлік людзей, якія наведалі выбарчыя ўчасткі, сапраўдная яўка склала крыху больш за 40%, а па Мінску — не больш за 30%. Гэта значыць, што агучаны апазіцыяй заклік да байкоту быў пачуты большасцю беларусаў, якія праігнаравалі выбары ў псеўдапалату.**

У той жа час, па звестках Цэнтрвыбаркама, кантралюемага ўладай, на выбары прыйшло крыху больш за 60% выбаршчыкаў. Пры гэтым, нават па звестках прызначанага А.Лукашэнкам кіраўніка ЦВК Лідзіі Ярмошынай, яшчэ за некалькі гадзінаў да заканчэння галасавання патрэбнага працэнта выбаршчыкаў, які складае 50 працэнтаў — не было. Але адразу пасля заканчэння часу галасавання была агучаная лічба ў 52%. І раптам праз некалькі гадзінаў лічба «ў выніку апрацоўкі бюлетэняў» вырасла да 60%. Якім чынам такое стала магчыма, застаецца незразумелым.

А дванаццатай гадзіне паслявыбарнай ночы на штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту была сабраная прэс-канферэнцыя, якую вялі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і каардынатар па замежных справах аргкамітэта Хартыі'97 Андрэй Саннікаў. Вось некаторыя лічбы: па Магілёве, па падліках апазіцыі, прагаласавала 33%, у Віцебску — столькі ж, у Салігорску і Наваполацку — 34-35% , а ў Мінску — увогуле крыху больш за 30%.

Таксама былі пералічаныя многія парушэнні пры правядзенні галасавання, а ў спецыяльна складзеным спісе іх былі ўвогуле сотні.

У прыватнасці, гэта было паўсюднае хаджэнне па кватэрах з выбарчымі ўрнамі без заяўкі выбаршчыкаў; скарачэнне спісу выбаршчыкаў — на многіх участках прыкладна а 19-й гадзіне, калі стала бачна, што выбары не адбываюцца, пачалі «ўдакладняцца» спісы выбаршчыкаў, і з іх дзесяткамі і сотнямі знікалі людзі. На пытанні людзей, якія кантралявалі ход выбараў, члены выбарчых камісіяў адказвалі: «Людзі з'язджаюць, людзі паміраюць...» Як быццам людзі паміралі сотнямі менавіта ў дзень галасавання. Многія ж, хто прыходзіў на ўчасткі, — не знаходзіў свайго прозвішча ў спісах выбаршчыкаў. Ва ўсю ішло галасаванне па студэнцкіх білетах і розных іншых дакументах, якія не з'яўляюцца афіцыйнымі. Звыклае ўжо галасаванне за сяброў ды родных, таксама катэгарычна забароненае Выбарчым кодэксам, прысутнічала паўсюдна. І, нарэшце, абсалютна неверагодная лічба тых, хто прагаласаваў датэрмінова, — 15%, а па Гродзенскай вобласці — увогуле 20%.



Такім чынам, відавочна бачныя ўсе падставы для непрызнання выбараў сусветнай дэмакратычнай супольнасцю. Але ж Расія выбары ў Беларусі ўжо прызнала, а спікер Дзяржддумы камуніст Г.Селязнёў выказаў упэўненасць, што цяпер беларускую палату вернуць у еўрапейскія міжпарламенцкія структуры.

Асобна была абмеркаваная праблема назіральнікаў. Афіцыйна на Беларусі іх не было, бо еўрапейскія структуры абмежаваліся адпраўкай да нас толькі тэхнічных экспертаў, якія непасрэдна за выбарамі назіралі. Калі ж Людміла Маслюкова з «Советской Белоруссии» на прэс-канферэнцыі задала Андрэю Саннікаву пытанне, чаму ж ён не лічыць міжнароднымі назіральнікамі прадстаўнікоў Азербайджана ці, прыкладам, Ірана, у зале здарыўся дружны прыступ смеху.

Такім чынам, улады арганізавалі чарговую фікцыю, дэмакратычная апазіцыя іх у чарговы раз публічна выкрыла. Паўтарылася гісторыя рэферэндуму'96, заканадаўчая ўлада на Беларусі зноў была **прызначаная**. З чым усіх і віншуем.

## СЕЛЬЧАНЕ «БОЛЕЕ ДОБРОСОВЕСТНЫ»... ГОРОЖАНЕ «БОЛЕЕ ПОЛИТИЗИРОВАНЫ»...

Курьер

В Витебске выборы не состоялись — это, пожалуй, главный итог избирательной кампании. Нельзя сказать, что жители областного центра проигнорировали мероприятие — избирательные участки посетили около 42,6% витебчан, внесенных в списки для голосования. Однако на фоне общих результатов по области Витебск оказался в одиночестве.

По официальным данным, на четырех из 16 избирательных округов Витебщины выборы не состоялись. Все они расположены в областном центре. В целом по области участие в голосовании приняли 61,33% избирателей, причем чуть больше 13% проголосовали досрочно.

Уже на стадии досрочного голосования власти допустили ряд серьезных нарушений избирательного законодательства и демократических норм проведения выборов. Так считает Христофор Желяпов, председатель областного координационного совета по наблюдению за выборами, объединяющего общественные организации, выставившие более 900 наблюдателей.

*Сергей КОЧЕТОВ*

# МНЕНИЕ ПАРЛАМЕНТСКОЙ «ТРОЙКИ»

Парламентская «тройка», представляющая парламентские ассамблеи ОБСЕ, Совета Европы и Европарламент, приняла к сведению выводы Бюро по демократическим институтам и правам человека (БДИПЧ) о несоответствии выборов в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь международным стандартам. 06 этом говорится в отчете парламентской «тройки», который был распространен утром 16 октября консультативно-наблюдательной группой ОБСЕ в Беларуси.

В этом документе говорится, что парламентская «тройка» приняла к сведению следующие выводы, представленные БДИПЧ ОБСЕ: «Выборы в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь 15 октября 2000 года не соответствовали международным стандартам, предъявляемым к демократическим выборам, а также требованиям, сформулированным в Копенгагенском документе ОБСЕ 1990 года. В частности, не были соблюдены минимальные обязательства по проведению свободных, справедливых, равных, подотчетных и открытых выборов. Несмотря на достижение некоторого прогресса по сравнению с предыдущими выборами, все еще существуют определенные недостатки в проведении избирательного процесса».

В документе также указывается, что в соответствии с решением третьей технической конференции по Беларуси, прошедшей 30 августа в Вене, БДИПЧ ОБСЕ приняло решение направить на выборы только миссию по технической оценке. Это связано с тем, что «положения о предварительном голосовании, переносных урнах для голосования, правилах подсчета и обобщения результатов голосования далеко не соответствовали минимальным требованиям открытости, необходимым для осуществления независимой проверки. БДИПЧ отказалось направить своих наблюдателей на участки в день выборов. Даже безукоризненная организация голосования в день выборов не сможет исправить вышеуказанные недостатки».

Среди других причин, которые объясняют несоответствие этих выборов минимальным международным требованиям, называется несовершенство законодательства о выборах. Как отмечается, оно хотя и улучшено, но тем не менее имеет существенные недостатки,

В документе, распространенном КНУ ОБСЕ, называется ряд факторов, которые помешали избирательному процессу быть демократичным. Это, в частности, осуществление исполнительной властью контроля за работой избирательных комиссий. Злоупотребление процедурой регистрации кандидатов позволило исключить нежелательных претендентов из предвыборной борьбы, что ограничило свободу выбора избирателей. Жесткое регулирование предвыборной кампании кандидатов также ограничило возможность ее проведения. Названы и другие факторы.

В документе отмечается, что БДИПЧ ОБСЕ готово продолжить диалог с властями Беларуси с целью рассмотрения проблемных моментов, которые отражены в выводах миссии по технической оценке БДИПЧ, а также для обсуждения предстоящих президентских выборов.

***Владимир ГЛОД***

**Заява намесніка прэс-сакратара Дзярждэпартамента ЗША Філіпа РЫКЕРА**

## БЕЛАРУСЬ:
### выбары 15 кастрычніка былі недэмакратычныя

Злучаныя Штаты падтрымліваюць меркаванне сваіх еўрапейскіх партнёраў аб тым, што выбары 15 кастрычніка ў Беларусі не былі свабоднымі, справядлівымі і празрыстымі. Тэхнічная місія Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) і Еўрапейскай Парламенцкай Тройкі зрабіла выснову, што азначаныя выбары не адпавядалі міжнародным нормам дэмакратычных выбараў. Злучаныя Штаты не прымаюць вынікаў гэтых выбараў і будуць працягваць прызнаваць дэмакратычна абраны Вярхоўны Савет 13-га склікання, які ўзначальвае Сямён Шарэцкі, як легітымны парламент Беларусі. Свабодныя, справядлівыя і празрыстыя выбары не вызначаюцца выключна бесперашкодным галасаваннем у дзень выбараў. Такое галасаванне — толькі частка працэсу, які складае дэмакратычныя выбары і які, акрамя таго, абавязкова павінен уключаць бесперашкодную перадвыбарчую кампанію са свабодным абменам думак. Нягледзячы на неаднаразовыя заклікі Злучаных Штатаў, ЕС і АБСЕ стварыць клімат, неабходны для такой кампаніі, беларускія ўлады не прадэманстравалі заўважальнага прагрэсу ў гэтым накірунку.

У дзень выбараў з'ўляяіся паведамленні аб шматлікіх парушэннях, якія сведчаць аб фальсіфікацыі з боку рэжыму. У парушэнне беларускага заканадаўства скрыні для галасавання даступляліся літаральна да дзвярэй, і грамадзян «заахвочвалі» галасаваць. Тое, што рэжым быў вымушаны пайсці на такія неардынарныя меры, сведчыць аб тым, што байкот выбараў апазіцыяй быў эфектыўны.

Злучаныя Штаты глыбока шкадуюць аб тым, што беларускія ўлады праігнаравалі жаданне ўсё большай колькасці беларускіх грамадзян вярнуцца да дэмакратыі і рашуча асуджаюць буйныя парушэнні, дапушчаныя рэжымам Лукашэнкі падчас выбараў. Прэзідэнцкія выбары, запланаваныя на наступны год, павінны прайсці без такіх парушэнняў, інакш яны таксама могуць не атрымаць прызнання міжнароднай супольнасці.

## СТУДЕНТУ УГРОЖАЮТ
### отчислением из вуза за политическую деятельность

Студент Витебского государственного университета Сергей Аксимович обратился за помощью к журналистам в связи с давлением, которое на него начала оказывать администрация факультета.

Сергей учится на третьем курсе факультета белорусского языка и истории, но его жизнь не ограничивается лишь учебой. Он является активистом «Маладога фронту» и в предвыборный период принял участие в распространении листовок «Бойкот-2000», а также в сборе подписей под четырьмя требованиями, выдвинутыми к белорусским властям оппозицией и международным сообществом. Об этом стало известно руководству факультета. Сергея немедленно пригласили в деканат и потребовали, чтобы он прекратил заниматься политической деятельностью. В противном случае ему пригрозили отчислением из университета, Не имея правовой защиты, Сергей Аксимович обратился за помощью к общественности.

***Ирина МАРЫСКИНА***

# ВАЖНЕЙ ВСЕГО – ВОЛЯ НАЧАЛЬСТВА

Курьер

***15 октября утром я объехал на машине несколько избирательных участков. Везде было непривычно пусто. Чуть позже в окружной избирательной комиссии Поставского округа № 30 мне привели шокирующие цифры. Всего по округу из 60 с лишним тысяч избирателей, включенных в списки, с 10 октября количество «досрочников» составило 35,7 процента от общего числа граждан, наделенных правом выбирать.***

Согласно информации Центризбиркома, правом досрочного голосования на выборах в парламент могут воспользоваться граждане, которые по тем или иным причинам не смогли бы прийти на избирательные участки 15 октября. Весьма интересно, чем же планировали заниматься в воскресный день те 21500 жителей Поставского и Браславского районов, которых организованно завозили в сельские клубы и конторы, а некоторые после инструктажа на работе и сами туда добрались.

На многих участках на селе уже в четверг-пятницу проголосовало больше половины потенциальных избирателей. Едва ли не «рекорда» добились на Дуниловичском участке для голосования № 13, где 11 октября дружно опустили в урну бюллетени 264 жителя окрестных сел из 910 имеющих право голоса. Примечательно, что если в первый день досрочных выборов на участках работали 36 наблюдателей, то в в пятницу 13 октября отслеживали законность процесса только три. Остальных на Поставщине просто запугали, намекнув на неприятности в будущем.

Вообще, букет разных больших и мелких нарушений на выборах впечатляет. Из-за ограниченности газетной площади назову лишь некоторые из них. В один из дней на улице Пушкина в Поставах наблюдатели заметили члена комиссии Красноармейского участка № 3 учительницу Елену Плясову, которая уговаривала людей проехаться на выделенном транспорте и отдать свой голос за кандидата. На другом участке в деревне Мягуны председатель комиссии для голосования инженер колхоза им. Кирова Франц Андрушкевич просто не пустил в помещение журналиста Алеся Костеня, проигнорировав удостоверение корреспондента газеты «Звязда» и членский билет Союза журналистов. Поздно вечером 14 октября доверенные лица А.Камая обнаружили на участках в Воропаево и Юньках посторонних лиц.

В день выборов на многие участки, очевидно, для контроля за ходом голосования, прибыли начальствующие особы районного звена. В ряде мест в воскресенье наблюдателей разместили так, что им просто трудно стало отслеживать ход волеизъявления людей. На участках в селе Козловщина и городском № 2 вообще были обнаружены лишние урны, а на участке № 35 в Гуте одного нужного ящика не оказалось. Все это и многое другое дало основание одному из двух претендентов, признанному «неблагонадежным», — председателю совета директоров ассоциации «Белекс» Александру Камаю — обжаловать в прокуратуре района нарушения закона о выборах. Однако в такой ответственный момент там никого не оказалось.

Как и ожидалось, «вертикаль», используя все рычаги влияния и ранее проверенные методы, постаралась выполнить поставленную перед ней задачу и провести в парламент нынешнего депутата Палаты представителей Петра Розынко. Для этого и требовалась такая масса людей, которых попросили проголосовать досрочно. По городу пошли разговоры, что этот «палаточник» даже заранее заказал в одной из фирм продукты, чтобы отпраздновать свою победу. Вчера рано утром стало известно, что на второй срок в Нижнюю палату избран бывший председатель колхоза П.Розынко. На парламентских выборах в Палату представителей по Глубокскому избирательному округу № 22 также на второй срок избран Василий Хрол, по Миорскому избирательному округу № 24 — Наталья Ткачук, главный врач Дисненской районной больницы.

*Владимир ШИК*



# ЦэнтрВыбарКам: «У КРАІНЕ ЎСЁ СПАКОЙНА»

Свабода

Аляксандра УСЦІНОВІЧ

**Раніцай 16 кастрычніка старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына агучыла першыя выніковыя выбарчыя дадзеныя. Больш падрабязныя факты па выбарах у палату прадстаўнікоў стануць вядомыя ў бліжэйшыя дні.**

Па словах Л.Ярмошынай, у першым туры галасавання прынялі ўдзел 60,6% выбаршчыкаў. Прагаласавалі 96 з 110 выбарчых акругаў.

Як сцвярджае старшыня Цэнтрвыбаркама, дэпутатамі палаты прадстаўнікоў былі абраныя 43 чалавекі, якія прадстаўляюць партыі аграрыяў, камуністаў, а таксама Сацыял-дэмакратычную партыю народнай згоды. З 43 новаабраных толькі тры – жанчыны. Затое 22 ужо працавалі ў палаце прадстаўнікоў.

Афіцыйная статыстыка ўпарта сцвярджае, што па Мінскай вобласці прагаласавала 52,7% выбаршчыкаў, па Брэсцкай — 57%, па Віцебскай – 61,3%, па Гродзенскай — 60,4%, а па Гомельскай — 55%.

Цэнтрвыбаркам сцвярджае, што буйныя парушэнні выяўленыя толькі на адным з участкаў Полацкай выбарчай акрузе – там невядомым чынам зніклі 20 бюлетэняў. Полацкая пракуратура распачала расследаванне, а вынікі галасавання на гэтым участку лічацца несапраўднымі.

У «палатку» трапілі Аляксандр Александровіч, Раман Ананьеў, Леанід Глухоўскі, Мікалай Дубовік, Аляксандр Зінчанка, Пётр Калугін, Ігар Катляроў, Віктар Кучынскі, Анатоль Малафееў, Іван Пашкевіч, Васіль Хрол, Усевалад Янчэўскі. «Праляцелі» міма цёпленькага месцейка былыя дэпутаты Аляксей Камай, Сямён Ліфшыц, Леанід Сечка, Уладзімір Ягораў.

Па словах Л.Ярмошынай, у Мінску выбары адбыліся ў 14 з 18 выбарчых акругаў. У другі тур прайшлі Вольга Абрамава, Уладзімір Навасяд, Міхаіл Чыгір. У Мінскай вобласці, па інфармацыі Цэнтрвыбаркама, выбары не адбыліся па дзвюх акругах.

Праз два тыдні ўлада збіраецца правесці другі тур выбараў. У тых акругах, дзе выбары не адбыліся, на працягу трох месяцаў мусіць адбыцца паўторнае галасаванне.

Як сцвярджае Лідзія Ярмошына, выбары прайшлі без інцыдэнтаў, спакойна. Парадак на выбарчых участках падтрымлівалі да 10.000 міліцыянтаў.

